


## Мікалай і Вера Міхальчукі



Праўду нехта сказаў, што гаспадара пазнаюць па панадворку. Так яно і ёсць. Заглянем сёння да солтыса Мікалая Міхальчука і яго жонкі Веры ў Пуціскі, што ў Гайнаўскай гміне. Гаспадарыць яны на 9,2 гектара. Пакуль паявілася спецыялізацыя, пачыналі яны так, як і ўсе — ад плуга, сеялкі, касілкі і малатарні. Галоўнае — гэта апрацоўваць зямлю і дабівацца як найлепшых пладоў. Потым пачаліся пошукі, у якіх нарадзілася думка аб жывёлагадоўлі. Прыгожы, вялікі кароўнік пабудавалі ў 1969 годзе. Неўзабаве паявіліся і першыя яго „жыхары". Цяпер Міхальчукі гадуюць адзінаццаць штук быдла, у тым ліку дзевяць кантрактаваных, прызначаных на продаж дзяржаве. Купляюць яны іх малымі цялятамі і пасля паўтарагадовай гадоўлі здаюць вялікімі тлустымі бугаямі. Чаму бугаямі? А гэта таму, што так падказалі назіранні. Самец, калі пакінуць яго ў такім стане, хутчэй набірае вагі, ну, і на цэлую залатоўку даражэйшы на кілаграме.

— Найцяжэйшы пачатак, але трэба верыць і працаваць, — гаворыць Вера Міхальчук. У найбліжэйшым часе думаюць яны ўвесці ў сваім кароўніку абноўку, гэта значыць, падключыць ваду і дабудаваць новыя стойлы, якія дапамогуць павялічыць гадоўлю. Апрача таго, гадуюць таксама і свіней, з якіх кожны год па адной адпраўляюць на скупку.

Спецыялізацыя спецыялізацыяй, а гаспадарка гаспадаркай. Не, не пакінулі яе ў мёртвым пункце. Апрацоўваюць далей, а ў гэтым дапамагаюць машыны і ўласны трактар, якім ездзіць сын Валодзя. З году ў год вядуць кантрактацыю. На 1976 год падпісалі ўжо ўмову з дзяржавай на 3 га рапсу і 2 га збожжа. Найбольш, аднак, садзяць буракоў і сеюць канюшыны. Трэба ж неяк забяспечыць кормам жывёлу.

У выніку іх пчалінай працы вырас прыгожы мураваны дом. Засталося толькі зрабіць сталярку — і будынак на ўсю вёску! Няма чаго гаварыць, добры прыклад дае жыхарам Пуцісак іх солтыс.

**М. Ш.**
Фота **Я. Цялушэцкага**

## Экскурсія ў Беласток

Моладзь з вёскі Зубава была ў кастрычніку на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Беластоку. Было нас шэсць асоб з вёскі: Марыся Дзмітрук, Зіна Данілюк, Тэрэса Снятэцкая, Жэня Аўсенюк і хлопцы — Яўген Анішчук і Коля Вязоўскі. У Бельску на зборным пункце сустрэліся яны з моладдзю з Кожына, Райска і з працаўнікамі сельскагаспадарчага гуртка з Бельска. Разам нас было 24 асобы.

**Джэны А.**



Пачатак на стар. 1

заўсёды ў аўторак. Дажынаючы жыта, рыхтавалі *„пэрэпэліцю"* — жменю нязжатага жыта звязвалі каля каласкоў, каласкі зрэзвалі сярпом, зямлю палолі з пустазелля і травы, *„пэрэпэліцю"* абкладвалі каменнем, у яе сярэдзіну клалі камень-плітняк, а на яго кавалачак хлеба, які зваўся *„заячым"*. Са зжатых каласкоў рыхтавалі **кветку.** Пры гэтым сыны або жанцы **аблівалі** гаспадара вадой, каб збожжа на другі год было *„ядронэ"*, **абвязвалі** яго пярэвяслам, **спявалі** дажыначныя песні, а гаспадар **запрашаў** жанцоў на гасціну.

Не толькі жытняе зерне адыгрывала калісьці вялікую ролю ў сялянскай гаспадарцы, салома таксама лічылася. Яна ішла на корм жывёле, з яе плялі розныя карабкі, і перш за ўсё — крылі ўсе будынкі. Дзеля гэтага салому пры малацьбе дакладна вытрасалі, раўнялі і вязалі ў вялікія снапы — *„гэрліны"*. На крыццё *„круцілі"* *„кулікі"*, *„одузкі"* (камлі) якіх прывязвалі да латаў, а *„колоскі"* клалі па страсе. На першы рад страхі круцілі спецыяльныя кулікі *„острышэўнікі"*. На *„штрып"* (самы верх даху) нацягвалі мяту салому, ставілі драўляныя *„козлы"*. Калі такі дах быў належна зроблены, ён мог прастаяць 60-70 год.

Але саламяныя стрэхі — гэта ўжо мінулае Апакі Вялікай. Чатыры гады таму назад тут была праведзена **камасацыя** зямлі. Паволі пачынаюць забывацца **назвы** колішніх палеткаў: **Бор, Груд, Капуснікі, Кошара, Мінюшчына, Олёс, Прогулянка, Прыдаткі, Рыэзкі, Сэрнікі, Узкі, Янкоўшчына**. Належная апрацоўка зямлі, прымяненне штучных угнаенняў і машыны ўдвая павысілі ўраджаі на тутэйшай, хоць і слабенькай, зямлі. У 1972 г. ўжо пад дахі з дахоўкі ды азбесту завітала электрычнае святло. Пры яго праводцы шмат грамадскай працы ўклалі самі апакаўчане. У сяле ёсць **крама, святліца, бібліятэчны пункт, тэлефон.** Злеўня малака пакуль што знаходзіцца ў невыгодным прыватным будынку, але акруговая малачарня ў Гайнаўцы намервaецца збудаваць тут тыповы сучасны будынак, і жыхары Апакі абяцаюць унесці і свой уклад у гэтую будоўлю, бо малака ў злеўні тут з




кожным годам прыбывае, цяпер яго штодзень дастаўляюць каля 700 літраў.

Хоць за мінулае трыццацігоддзе Апаку пакінула многа моладзі, якая падалася працаваць на чыгунку ў Чаромсе або выехала ў больш адлеглыя гарадскія цэнтры краіны і многія там паканчалі сярэднія школы, або і вышэйшыя, як напрыклад, **Аляксей Сахарчук,** які цяпер працуе інжынерам у Беластоку, аднак зямля тут не пустуе і не зарастае лесам. У апошні час за пенсію зямлю здало 8 гаспадароў, але і яна загаспадарана. Умеюць тут шанаваць зямлю і карпатліва даглядаць яе. Вось хоць бы **Іван Саўчук** — пажылы ўжо селянін — вядомы на ўсю вёску гадоўца, ужо каля трыццаці год займаецца гадоўляй племянных быка, барана, кнура, огера. Мае таксама чатыры дойныя каровы, здае штогод каля 10 кормнікаў. У яго сляды пайшоў сын **Іван Саўчук** — солтыс і грамадскі дзеяч у сяле. Гаспадарыць ён на 11 га, пабудаваў салідны дом і ладныя гаспадарчыя будынкі. Трымае 4 дойныя каровы, дастаўляе ў год 10-12 кормнікаў, вядзе ферму 200 штук курэй. Кантрактуе бульбу і жыта. У яго свой электрычны матор, млын, крайзега, камплект сельскагаспадарчых машын. Цяпер ён намервaецца набыць трактар. Не кажучы ўжо пра тое, што дома ў яго ладная мэбля, тэлевізар і іншае абсталяванне, якое нічым не ўступае гарадскому.

Так жывуць цяпер у Апацы Вялікай — сяле на скраю Польшчы. І калі пачынаеш гутарыць з **Андрасюкамі, Ваўранюкамі, Іванюкамі, Раманьчукамі, Сахарчукамі, Саўчукамі, Седунамі і Сідарукамі** — усе іх помыслы накіраваны на тое, каб на полі расло буйней, а ў хлявах было паўней, а штодзённая праца прыносіла ўсё лепшыя вынікі.

**Мікалай Гайдук**
фота аўтара



*У Апацы Вялікай народная разьба па дрэве не гіне. У сваім новым доме І. Саўчук вось як густоўна аздобіў шчыт.*




У кнігарні № 8 у Бельску, вул. Міцкевіча 66, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Аляксееў Сяргей,** Сакрэтная просьба, 1971, стар. 63, цана 2 зл. 10 гр.

Зборнік займальных апавяданняў пра У. І. Леніна. Пераклад на беларускую мову С. Міхальчука, ілюстрацыі — В. Бароўкі.

**Лынькоў Міхась,** Міколка — паравоз, 1971, стар. 184, цана 1 зл. 60 гр.

Надзвычай папулярная аповесць для моладзі аб прыгодах разважлівага і дасціпнага сына машыніста ў часе Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Адмысловыя каляровыя малюнкі А. Волкава.

**Кірэенка Кастусь,** Алесева кніжка, 1972, стар. 88, цана 1 зл.

Зборнічак невялічкіх апавяданняў пра Беларусь, яе прыроду, людзей, герояў, што змагаліся за волю і шчасце працоўнага люду.

**Дубоўка Уладзімір,** Жоўтая акацыя, 1967, стар, 288, цана 6 зл. 80 гр.

Аповесць старэйшага беларускага пісьменніка аб пошуках і знаходках юных натуралістаў, іх любві да прыроды роднага краю, аб імкненні ўчыніць яе яшчэ прыгажэйшай дзеля дабра чалавека.

**Гарбук Вісарыён,** Хто такія мы, 1973, стар. 112, цана 5 зл. 90 гр.

Зборнік цікавых апавяданняў для дзяцей. Ужо адны загалоўкі цыклаў: „Незнарок і знарок", „Таніны апавяданні", „Чаму свеціць сонца", „Твар у палоску" абяцаюць чытачам многа ўражанняў.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki", Księgarnia nr 8, 17-100 Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 66.

**(мг)**




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXXII

**Драматургія.** Другой п'есай Гаруна, прызначанай для дзіцячага тэатра, з'яўляецца твор „Шчаслівы чырвонец". У адрозненні ад „Хлопчыка ў лесе", у якім выступілі моцныя элементы беларускай казачнай традыцыі, „Шчаслівы чырвонец" можам лічыць творам тыпова літаратурным і ў нейкай ступені рэалістычным. Да рэалістычных трэба аднесці апісанні, якія датычацца дзіцячай псіхалогіі, дзіцячых гульняў, а таксама цікавую „этнаграфічную" характарыстыку местачковага базара. Рэшта ў творы фантастычная. Гэта дазволіла Гаруну ўключыць п'есу ў цыкл „Жывых казак". Па сутнасці ў п'есе маем дачыненне з дасканала выважанымі прапорцыямі рэалістычнага і фантастычнага.

А вось галоўныя элементы зместу п'есы. На дарозе паяўляецца старая жабрачка, якая вядзе маналог аб сваім жыцці. З маналога даведваемся, што яна робіць людзям дабро — раздае ім чырвонцы. Як бы пацвярджаючы свае словы, жабрачка рассыпае па дарозе жменю чырвонцаў, а сама засынае каля паваленага дрэва.

Неўзабаве на дарозе паяўляюцца школьнікі. Пачынаюць гуляць. Двое з іх знаходзяць па чырвонцу. Хітры Габрусь просіць у Галляша паказаць знойдзеную манету. Атрымаўшы яе, кладзе ў кішэню, даказваючы, што манета яму падорана. Усе дзеці на чале з „багатым" двума чырвонцамі Габрусём ідуць да вёскі, пакрыўджаны і ашуканы Галляш застаецца на дарозе і напорваецца на жабрачку.

Даведаўшыся аб ашуканстве Габруся і крыўдзе Галляша, жабрачка дае яму новы чырвонец. І вось гэта манета і становіцца шчаслівым, па сутнасці чарадзейным чырвонцам.

У другім акце бачым маламестачковы базар з трыма крамамі. Побач з крамамі разлажыла рознае барахло вядомая ўжо нам жабрачка. Паяўляюцца дзеці. Габрусь акружаны грамадой равеснікаў, а Галляш толькі з адной дзяўчынкай. І Габрусь і Галляш падыходзяць да крамаў і пачынаюць купляць розныя рэчы. Незвычайнасць сітуацыі праяўляецца ў тым, што чырвонцы Габруся, калі ён іх толькі перадасць прадаўцу, становяцца звычайнымі медзякамі. Нічога дзіўнага, што таргаўцы гоняць Габруся, аддаючы яму фальшывыя грошы і забіраючы назад тавар. У Галляша ўсё выглядае па-другому. Чырвонец, які ён аддае ў краме за тавары, „азалачае" ўсе манеты, якія знаходзяцца ў прадаўцоў, і зноў вяртаецца ў кішэню хлопчыка.

У канцы ўсе дзеці пакідаюць Габруся і акружаюць сяброўскім натоўпам Галляша.

У апошняй сцэне п'есы бачым, як жабрачка дорыць Галляшу скрыпку і гаворыць:

„Ну, вазьмі, дзіцятка, скрыпку. Грай сабе, цеш, ды людзям пацеху рабі... Яны часта самі сябе крыўдзяць, а потым на долю наракаюць... Спрабуй зайграй".

„Галляш бярэ скрыпку і пачынае іграць, спачатку рэзануўшы не да ладу колькі разоў па струнах. Паволі з-пад яго рук выплывае нейкая музыка, катора ў яго мацнее і мацнее. Нота музыкі вясёлая, але спакойная, гаворыць аб ясным сонечным дні, спакоі на палях і на ўсім свеце, аблітым радасцю жыцця. Усе дзеці слухаюць гэтай музыкі, як зачараваныя".

Няма сумнення ў тым, што скрыпка, якую атрымаў Галляш, мае таксама чарадзейскі характар, як і атрыманы ад жабрачкі чырвонец. Чырвонец у п'есе гэта сімвал матэрыяльнай вартасці, тады, калі скрыпка сімвалізуе вартасць духоўную. Дзякуючы чырвонцу хлапец мог набыць для сябе матэрыяльныя прадметы, дзякуючы скрыпцы будзе ў стане ўзбагачаць духоўна іншых.

Такі генеральны сэнс твора. Аднак, можам гаварыць і аб іншых аспектах п'есы „Шчаслівы чырвонец". Мы ўжо сказалі, што гэта п'еса тыпова літаратурная і мала фальклорная. Не значыць гэта, што фальклорныя матывы ёй цалкам чужыя. Цудадзейныя прадметы — чырвонец і скрыпка, ідэя барацьбы дабра са злом, пакараны эгаізм і ўзнагароджаны альтруізм — усё гэта матывы, тыповыя для народных казак. Такім чынам, Гарун і ў гэтым творы выкарыстоўвае некаторыя характэрныя для фальклору прыёмы.

**КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ**




За палямі, за лясамі, за высокімі гарамі, у вёсцы Кузаве, жыло двое суседзяў: Бедны і Багаты.

У Багатага быў дом мураваны, агароджаны сеткай, а ў Беднага толькі драўляная хацінка, падшытая ветрам. Спачатку суседзі жылі згодна, нават памагалі адзін другому. І вось аднойчы на Беднага звалілася вялікая непрыемнасць. Жонка Багатага так вылаяла яго, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

Пакрыўдзіўся моцна мужык, ды нічога не сказаў. А жонка яму гаворыць: „За што яна цябе з балотам зглуміла, за што цябе аплявала...“. І пачалася нянавісць паміж бабамі.

Мужыкі, як мужыкі, не мяшаліся ў бабскія справы. Аднак Багаты не вытрымаў: „Ты заткні морду жонцы, — кажа Беднаму, — няхай дзяцей не чапае, а то вачэй за слязьмі ў птушанятак маіх не відаць!“

Скуліўся наш мужык, ды пайшоў дахаты. Кажа жонцы: „Не чапай ты гэтай заразы, не сварыся. Людзі будуць смяяцца“. А тая яму: „Не буду маўчаць яшчарцы. Гэта яна пачынае ўсе сваркі. Дзяцей навучыла, што дарогі не даюць прайсці“.

Пачаў Бедны бліжэй прыглядацца дзецям Багатага. А тыя сапраўды, быццам чарцяняты, безупынна скачуць перад яго дзецьмі, на адно слова мужыковай жонкі кідаюць дзесяць, ды такіх брыдкіх, што і ў казцы немагчыма сказаць.

Усё больш і больш паглыблялася нянавісць паміж суседзямі. Іх справу разглядаў нават княжаскі суд. І быццам бы памірыў пасвараных суседзяў. Аднак кожны з іх усё новыя штучкі прыдумоўваў, каб укалоць праціўніка. А што панок, гэта значыць Багаты, чалавек адукаваны, дык хутчэй прыдумаў... І пачаў ставіць нужнік пад носам у суседа.

Жонка Беднага аж закіпела ад злосці. „Чаму маўчыш? — кінулася на мужыка. — Ідзі зараз жа да Князя! Няхай прысылае ўраднікаў і абламае рогі гэтай заразе!“

І пайшоў Бедны з скаргаю да Князя. Той выслухаў мужыка і кажа яму: „Вяртайся спакойна дамоў, чалавеча. Мы вырашаем справу па закону. Як трэба будзе, дык вас паклічам“.

Прайшоў дзень, мінуў другі. Усё цячэ па-даўнейшаму. Багаты ставіць нужнік, а Бедны нервуецца. Праз тры нядзелькі да Багатага завітаў ураднік Князя. Выйшаў на панадворак Бедны і пытаецца ўрадніка: „Рассудзіце, паночку, па закону, можна тут пабудаваць нужнік ці не?“.

А той адказвае: „Па закону, то не. Аднак, як пачаў чалавек будаваць, дык няхай закончыць будову. За самаўпраўства штраф заплаціць“.

Бачыць мужык, што ўраднік пацягае на Багатага старану, дык пайшоў дахаты. А Багаты доўга нешта шаптаў з ураднікам.

Сустрэў аднойчы Бедны Князя на вуліцы, а той і пытае мужыка: „Ды як жа тая справа, дабрадзею?“. (Князь быў добрым, справядлівым чыноўнікам). „Крыўдзіць мяне Багаты сусед, міласцівы пане, — адказвае той. — Ды і ўраднік ваш за ім пацягае, як мне жыць, беднаму, не ведаю ўжо“.

Паглядзеў Князь на мужыка, і шкада яму зрабілася гэтага чалавека.

„Не сумуй ты, — цешыць Князь Беднага. — Я сам зацікаўлюся справай. Закон мусіць быць законам“.

Як сказаў Князь-дабрадзей, так і зрабіў. Вырашаў справу па закону.

„Гэтаму не быць, — засіпеў Багаты. — Я вас правучу. Пазнаеце мяне“. І пабег скардзіцца Гетману Вялікаму. Гетман адразу дае загад: „Паставіць Беднага з жонкаю перад маім абліччам!“.

Тым разам самаўпраўства мужыка ўзяло гору. Не пайшоў ён да Гетмана на расправу. І жонкі нікуды не пусціў. Аднак не ведаў, што без яго рашаецца справа ў высокіх гетманскіх парогах. Перамог Багаты.

Не памаглі ні тлумачэнні Беднага, ні законы Князя. Загад Гетмана быў загадам: „Багатаму, як майму прыяцелю і падручніку, волас з галавы зляцець не можа. А нужнік будзе стаяць там, дзе яго Багаты пабудаваў“.

З таго часу крыўду ў сэрцы носіць Бедны. Не верыць ужо ні Князю, ні Гетману Вялікаму.

**Кастусь Млынарскі**

# ПРАДУКЦЫЙНЫ ПОСПЕХ

Калектыўная сельская гаспадарка (ЗГР) у Навасадах (гміна Гайнаўка) узнікла на базе сельскагаспадарчага гуртка ў пачатку студзеня мінулага года. Пачала яна сваю сельскагаспадарчую дзейнасць на 370 гектарах ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзяў. Звышсаракаасабовы рабочы калектыў сёлета сабраў авёс з 68 гектараў, жыта з 41 га, ячмень з 30 га, грэчку з 9 га, лубін з 30 га, бульбу з 10 га і іншыя сельскагаспадарчыя культуры. ЗГР прадаў дзяржаве 210 тон збожжа і 53 тоны бульбы. 119 тон бульбы прызначыў на корм для свіней. Вядзе ён адкормку трохсот свіней. 200 штук ставіць на адкормку летняю парою пад дашком. У перспектыве ёсць пабудова двух чарговых абораў на 400 штук свіней кожная.

Варта дадаць, што ЗГР у Навасадах распараджаецца 31 трактарам, 5 камбайнамі — „Вістулямі“ і „Бізонамі“, камбайнам для капання бульбы, 18 капалкамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. Абслугоўвае ён жыхароў 9 вёсак.

(ця)

*з міесэцем розмавляло.*
*Пытаецця міесэця, пытаецця міесэця:*
*— Ой, чом рано зыходыш?*
*Ой, чом рано зыходыш, ой, чом рано зыходыш,*
*ой, чом позно заходыш?*
*— А што ж тобіе до того, а што ж тобіе до того,*
*до зыходу моёго?*
*Я й ранэнько ізыду, я й ранэнько ізыду —*
*нэбо-зэмлю освіечу.*
*Нэбо-зэмлю освіечу, нэбо-зэмлю освіечу*
*і сэло Горэшково.*
*І сэло Горэшково, і сэло Горэшково,*
*прыкрасного молодця.*
*Прыкрасного молодця, прыкрасного молодця,*
*прыкрасную діевіцю.*

Ад Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, і Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 5 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

**(Працяг са стар. 1)**

# Рабочае прывітанне З'езду

наў злотых. Асабліва актыўна папрацавалі там рабочыя фабрыкі мэблі, якія выпускаюць папулярны набор „Пушча“.

За добрую, высокапрадукцыйную працу 14 рабочых, прысутных на сустрэчы ў Саколцы, Прэзідыум ВРН у Беластоку ўзнагародзіў сярэбранымі значкамі **„Заслужаны для Беласточчыны“**. З некаторымі з іх я таксама гутарыў.

**Канстанцін Суровец,** працуе ў гарадскім пасажырскім аўтобусным транспарце ў Беластоку: я дагэтуль 72 гадзіны часу працаваў грамадскім чынам на пабудове аўтобуснага дэпо.

**Сяргей Федарчук,** шліфавальшчык з „Ухвытаў“: калектыў нашай фабрыкі абавязаўся працаваць грамадскім чынам па 24 гадзіны часу, што дае дадатковую прадукцыю ў межах 8 мільёнаў злотых.

**Браніслаў Кулакоўскі,** токар з прадпрыемства бытавога абслугоўвання: ад 1953 года працую я на адным і тым жа месцы і пры адным і тым жа станку. Пастаянна выконваю сваю норму ў 250-300 працэнтах.

**Галена Тапчэўская,** слёсар з фабрыкі сельскагаспадарчых машын у Чорнай Беластоцкай: грамадскім чынам наводзілі мы парадак ў новапабудаванай сталоўцы і вакол яе ды яшчэ дадаткова працавалі ў гонар VII З'езду партыі.

**Галена Руткоўская,** ткачыха з пасмантарыйнай фабрыкі ў Беластоку: я многія ўжо гады прытрымоўваюся прынцыпу **„Доро“ — добрай работы,** гэта значыць — як найбольш высакаякаснай прадукцыі. І не лічачы дадатковай працы ў гонар VII З'езду, гэта мае пастаяннае абавязацельства.

Менавіта так вітаюць чарговы З'езд нашай партыі рабочыя Беластоцкага ваяводства: прадукцыйныя абавязацельствы, грамадскія пачыны, даз'ездаўскія вахты і штодзённая добрая праца.

**Віктар Рудчык**




Школьная моладзь сельскагаспадарчых школ у Бельску большасць свайго часу праводзіць на школьных занятках. Яны канчаюцца ў 15 гадзін. Пасля абеда — вольны час. У гэты час пачынаюць сваю дзейнасць розныя гурткі: спявачы, танцавальны, музычны, спартыўны, дэкламатарскі і інш. Частка моладзі ў гэты час занята ў арганізацыях, якія працуюць у школе: ЗСМВ, ГСПС, ТППР, ПТТК, ПЦК, школьнае самаўпраўленне, вучнёўская арцель. Іншыя прымаюць удзел у культурных мерапрыемствах у школе, інтэрнаце ці ў гарцэрскім асяроддзі. Кожны амаль дзень робіцца нешта цікавае. Прыкладам хай будзе тыдзень ад 5 да 11 кастрычніка. У нядзелю моладзь наведала сельскагаспадарчую выстаўку ў Беластоку, у панядзелак быў сход маладзёжнага актыву і настаўнікаў для абмеркавання выхаваўчых спраў, у аўторак моладзь прыняла ўдзел у парадкаванні школьнай, прышкольнай і спартыўнай плошчаў, у сераду частка моладзі наведала бельскую ПКО і пазнаёмілася з сучаснымі бухгалтарскімі машынамі, у чацвер глядзела ў кіно „Зніч“ фільм па раману С. Жэромскага „Дзеі грэху“, у пятніцу моладзь і настаўнікі супольна абмеркавалі вучнёўскі кодэкс, у суботу многія прынялі ўдзел у школьным гулянні, якое адбылося ў танцавальнай зале інтэрнату...

І так дзень за днём кожны тыдзень. Няма часу на нуду. Нічога ў нас не дзеецца без ведама моладзі.

**Мікалай Няплоха**

**У ГОНАР VII З'ЕЗДУ ПАРТЫІ**

# Грамадскі пачын міхалоўскіх краўчых

Вялікіх прадукцыйных поспехаў дабіліся краўчыхі са швейнага прадпрыемства ў Міхалове. Ужо трэці год працуюць яны ў новым будынку. Цяпер шыюць яны мужчынскія кашулі на экспарт у Савецкі Саюз. Выконваюць заказ на 120 тысяч штук.

Варта адзначыць, што ў гонар VII З'езду партыі міхалоўскія швеі грамадскай працай пашылі 320 мужчынскіх кашуль першага гатунку. Апрача таго яны грамадскім чынам памалявалі і добраўпарадкавалі свой цэх, праклалі хаднікі, пасадзілі дрэўцы і кветкі на панадворку прадпрыемства.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

*Люба Семенчук (на першым плане) ўжо чатыры гады працуе толькі на выдатна.*



*Адна з лепшых краўчых міхалоўскага швейнага прадпрыемства Валянціна Дрэвіцкая (на першым плане).*

# Клуб у Паўночным Востраве

Не раз даводзілася мне быць у клубе ў Паўночным Востраве. Клуб добры, працуе. Яго кіраўнічка Ірэна Байгуз стараецца, каб у клубе было ўсё, як трэба, каб клуб сваю ролю культурнага цэнтра на вёсцы выконваў добра. У размове яна расказвае не толькі пра добрае, адным словам, не толькі хваліцца. Першым сваім заданнем лічыць даць магчымасць усім жыхарам вёскі пасля цяжкай штодзённай працы культурна правесці час у клубе. Ёсць тут тэлевізар, радыё, магнетафон, розныя гульні. Адбываюцца курсы для жанчын, маладзёжныя сустрэчы, сустрэчы і гутаркі гаспадароў.

**Я. Бандарук**

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Жыхары дома, у якім знаходзяцца чатыры кватэры, займалі жылплошчу на аснове рашэння гарадскіх улад. Пасля смерці ўласніцы дома, яе наследніца патрабавала ад кватарантаў платы ў тры разы большай, чым яны дагэтуль плацілі. Кватаранты адмовіліся і хацелі плаціць надалей суму, устаноўленую гарадской управай. Яны пасылалі грошы па пошце, але новая ўласніца адмаўлялася іх прымаць, а пасля звярнулася ў суд з патрабаваннем прымусовага высялення кватарантаў, спасылаючыся на тое, што яны не заплацілі за кватэру за 8 месяцаў. Ці можа суд прымусова выселіць кватарантаў?

АДКАЗ: Паводле закону, уласнік дома можа патрабаваць прымусовага высялення кватаранта, калі той не заплаціў кватэрнай платы больш чым за два месяцы. Гэта адносіцца да кватарантаў незалежна ад таго, ці займаюць яны памяшканне на аснове ўмовы з уласнікам дома, ці кватэра ім прыдзелена гарадскімі ўладамі. Паколькі ў нашым прыкладзе ўзнік спор адносна велічыні арэнднай платы, уласніца не можа патрабаваць высялення на той аснове, што кватаранты не згаджаюцца плаціць аднабакова ўстаноўленай ёю заплаты. Паколькі памяшканні прыдзелены гарадскімі ўладамі, арэндную плату ўстанаўліваюць гэтыя ж улады. Таму патрабаванні ўласніцы вышэйшай арэнды нічым не абгрунтаваны.

Калі ўласнік адмаўляецца прымаць арэндную плату, то, каб звольніцца ад абавязку заплаты, трэба злажыць грошы ў судовы дэпазіт. Высыланне грошай па пошце, калі ўласнік грошай не прыме, не звальняе ад абавязку. У асноўным суды не загадваюць прымусова высяляць кватаранта, які не заплаціў арэндную плату толькі таму, што ўласнік дома адмовіўся яе прыняць, хаця, фармальна падыходзячы, мог бы гэта зрабіць.




У здаровым целе здаровы дух

### КАТАР У ДЗЯЦЕЙ

Часамі хвароба звальваецца на дзяцей неспадзявана: высокая тэмпература, ваніты, клопаты са страўнікам. Прыходзіць доктар і кажа: катаральная інфекцыя. Дык няўжо толькі банальны катар выклікае такое цяжкое захворванне дзіцяці?

Катар, ці запаленне слізістай абалонкі носа ў дзяцей, асабліва ў немаўлят, зусім не з'яўляецца лёгкім захворваннем. Праўда, малое дзіця характарызуецца імунітэтам (адпорнасцю) на некаторыя заразныя хваробы, як, напрыклад, кор (одра), ветраная воспа, шкарлатына. Гэтую адпорнасць перадала дзіцяці маці. Аднак дзіця ў адносінах да вірусна-катаральных хвароб з'яўляецца абсалютна безабаронным.

На дадатак у дзіцяці няма яшчэ тканкавай адпорнасці, і таму часта яго хвароба можа мець ускладненні: яна пераходзіць на вушы, лёгкія, страўнік.

Таму менавіта катару носа часта спадарожнічае панос, ваніты і дрэнны агульны стан здароўя дзіцяці.

Толькі ў старэйшых дзяцей выступаюць у асноўным мясцовыя прызнакі ў выглядзе выцёкаў з носа, чырвонага горла ці павялічаных міндалін.

Пры лячэнні катару носа ў дзяцей выступае шмат цяжкасцей. Прымяняемыя пры гэтым мясцовыя сродкі даюць невялікі эфект. Вялікую ролю адыгрывае ачышчэнне носа ад выдзяленняў, таму старэйшыя дзеці павінны часта нос выдмухваць, затыкаючы наперамен то адну, то другую дзірку.

Калі выступаюць прызнакі ўскладненняў, як запаленне вуха, панос, запаленне лёгкіх, дык неабходным будзе агульнае лячэнне дзіцяці.

Дадатковым клопатам з'яўляецца частае вяртанне катаральнай інфекцыі ў дзяцей, якія выхоўваюцца ў яслях і прадшколлях. Дзеці, якія прабываюць пастаянна ў вялікай групе, маюць большыя магчымасці заражэння вірусамі, выклікаючымі катар носа, чым дзеці, якія выхоўваюцца ў сям'і.

І калі катар ў дзіцяці будзе часта паўтарацца, то можа ён перарадзіцца ў хранічны катар. Прычынай хранічнага катару могуць быць таксама пэўныя анамаліі ў будове носа, напрыклад, крывая перагародка, альбо перарост міндаліны ў горле.

У выпадку працяглага катару трэба наведаць з дзіцём ларынголага.

**Эскулап**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, хачу табе расказаць, што снілася мне ў апошнюю ноч. Здаецца мне, што сны гэтыя мусяць нешта абазначаць, і таму я вырашыў адразу напісаць табе. Былі яны нейкія бязладныя, перамешаныя адны з другімі, і цяжка іх улажыць у адну стройную цэласць

Спачатку нібы быў я паміж высокімі гарамі, у нейкай цясніне, дзе знаходзіўся нібыта сметнік, але смецця я не бачыў. Быў я там з маім бацькам. Уверх мы не ўзыходзілі.

Пасля мы ўвесь час хадзілі па гарыстай мясцовасці (але на версе), спускаючы ўніз нейкія фурманкі з людзьмі.

А потым па абочынах гор я бачыў вельмі прыгожыя ёлкі, прыбраныя, як на свята. Не ведаю, што і думаць пра гэтыя сны, але вельмі непакоюся.

**Твой верны чытач**

Думаю, што чакае вас нейкая цяжкая і няўдзячная праца. Вы ж увесь час ці то хадзілі па гарах, ці знаходзіліся паміж імі ў цясніне. У вас ёсць нейкія клопаты (бацька), звязаныя з плёткамі, хаця смецця ў цясніне і не аказалася. Мучыць вас нейкая хісткая, няпэўная справа (фурманка), якая, аднак, павінна прынесці вам неспадзяваны прыбытак у гаспадарцы (аб гэтым сведчаць вашыя прыгожыя ёлкі).

**Астрон**




Дарагое „Сэрцайка"! Выйшла я замуж маладая, у 18 год. Нагаравалася ўжо ды і надалей не прадбачваецца лепшага. З маленства, як толькі змагла я запамятаць, жыццё маё не было лёгкім. Рана асталася сіратой, маму ледзь памятаю. Жыццё з мачыхай было цяжкае ў дзяцінстве, а як падрасла я, стала зусім невыносным, і пайшла я з дому ў горад дзяцей пільнаваць, грошы зарабляць. Гаспадары спагадліва і сардэчна аднесліся да мяне. Дапамаглі мне паступіць у вячэрнюю школу. Але тут жа і пазнаёмілася я з Генікам. Знаёмства было кароткае. Мы пажаніліся. Быў ветлівы, сардэчны, па прафесіі тэхнік, і я спадзявалася, што ўрэшце пажыву па-чалавечы. Здарылася інакш. Нарадзілася дзіця, і ўсе абавязкі зваліліся на мяне. Працую на фабрыцы, вучуся, дзіця ў дзіцячы сад аддаю, а калі іду ў школу, дык суседка пільнуе. Муж нічога мне не памагае. Гаворыць, работа ў хаце і дзіця — гэта бабскія справы. Сам прыйдзе, з'есць, ды і паваліцца на тапчан, адпачывае. А я, як у млыне, кручуся, усё сама мушу зрабіць. Але мала таго, дык адстроіўшыся, вечарам сабе ў горад выходзіць. Вяртаецца позна, часта пахмяліўшыся. Калі што скажу, дык кажа, што са мною няма аб чым гаварыць, цёмная баба. Вучуся ўжо ў апошнім класе тэхнікума, але не ведаю, ці ў такіх умовах я навуку закончу. Не толькі вучыцца, але і жыць не хочацца. Ці ўжо такі мой лёс, як кажуць, як з яйца, так і да канца? Як жыць, парай, „Сэрцайка"!

Валя з Беластока.

Валя! Сапраўды, сумнае тваё жыццё. Нават замужжаства не апраўдала тваёй надзеі на лепшае. Муж — эгаіст, самалюб і ўвогуле чалавек не сямейны. Але не падай духам. Вытрывай яшчэ год. Закончыш школу, зменіш работу на лягчэйшую і больш платную. Больш часу будзеш мець для сябе. Дзіця ж таксама падрасце і клопатаў з ім будзе менш. А з мужам, калі не зменіць сваіх паводзін, далей табе жыць немагчыма, і, каб не было так, як у сказанай табой пагаворцы, бадай найлепшым выйсцем будзе развод.

**„Сэрцайка"**

### ГАРАДСКІЯ ЗАРЫСОЎКІ



*Беластоцкая ратуша.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*




### МА́ЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### МЁДАНОСНЫЯ МУРАШКІ

У Паўднёвай Амерыцы жывуць мурашкі, якія, як і пчолы, збіраюць мёд. Толькі захоўваюць яны яго не ў сотах, а ў сваім брушку. Жывуць гэтыя зборшчыкі мёду ў асобных куточках мурашніку. І калі іншым мурашкам не хапае ежы, яны скарыстоўваюць запас мёду, які захоўваецца ў жывых кладоўках.

Шчарбак, углядаючыся ў цемру, пратупаў каля куста і ціхенька, ледзьве не шэптам, паклікаў:

— Гэй! Здабудзька!

— Ды кінь ты! — усхапіўся з долу Блішчынскі. — Пачуюць яшчэ, тады будзе. Пойдзем.

Ён ускочыў на ногі, каб не даць Шчарбаку болей крычаць, але Іван без увагі на яго глядзеў сабе ў змрок і слухаў. Бо як было ісці, немаведама дзе пакінуўшы ездавога, мо нават на пагібель, пад носам у немцаў. Цімошкіну таксама было ніякавата тут, так блізка ад ворагаў, але ўсё думалася, што Здабудзька вось-вось знойдзецца і яны пойдуць.

Аднак ішоў час, а яго ўсё не было. Хлопцы ўжо трохі спачылі, Шчарбак з Блішчынскім, стоячы на нагах, угледаліся і чакалі, Цімошкін жа сядзеў у доле і яшчэ цяжка дыхаў.

— Ну, хопіць! — з канчатковай прыкрасцю сказаў Блішчынскі. — Пайшлі!

Пэўна адчуваючы сябе камандзірам, ён закінуў за плячо аўтамат і ступіў у снег, мяркуючы, што астатнія адразу рушаць за ім. Але Шчарбак адно толькі глядзеў ды слухаў і не звяртаў на яго ўвагі. Цімошкін таксама не ўстаў з долу.

— Ды пайшлі, што стаяць? Можа яго ўжо ў палон узялі? Чаго ж чакаць?

— Ды ідзі ты! — злосна кінуў Шчарбак. — Ідзі! Хто табе не дае? — Ён ямчэй паддаў аўтамат на плячы, як кожны раз, калі выпраўляўся куды, і пайшоў у змрок. Хутка шэрая мітусня сняжынак паглынула яго.

Блішчынскі нерашуча патаптаўся на месцы і вярнуўся пад куст. Ён маўчаў і, відаць, быў злосны за гэтую затрымку. Цімошкін, яшчэ не ачуняўшы ад свае знямогі, ўжо стыў на ветры і пачаў ціхенька дрыжаць.

— Трэба было яму ісці, вось дурань, — з непакоем у голасе сказаў Блішчынскі, і Цімошкін падумаў тады, што іхнія клопаты зусім чужыя яму. Вядома, што Блішчынскаму ездавы Здабудзька — нейкі незнаёмы салдат, якіх тысячы ў кожным палку. Хіба ён, пісар-штабіст, мог зразумець, што стары Здабудзька, для іх свой батарэец, нейкім чынам усё ж артылерыст, трэці з узвода, які ўцалеў у гэтым страшным разгроме. Як было кідаць яго на пагібель у тыле ворага?

— А можа ён там паранены ляжыць, а ты тут гаўкаеш, — не вельмі дружалюбна сказаў Цімошкін. Але Грышку, відаць, непакоіла адно толькі ягонае становішча, і ён злосна агрызнуўся:

— Ну і што ж? Ты яго панясеш, параненага?

— А што ж, пакінуць?

— Ну, вядома, пакінуць — дрэнна. Непрыгожа, разумееш, неэтычна, — раздражнена замахаў рукамі зямляк. — Але ж іншага выйсця няма. Усім не дагодзіш. Трэба ж цвяроза глядзець на рэчы.

Гэтая яго цынічная адкрытасць хоць і не дужа новай была для Цімошкіна, але ўсё ж сваёю бессаромнасцю бянтэжыла яго. Хлопец ведаў, што ніхто ў іх у разліку ніколі не сказаў бы такіх слоў, усе яны гатовы былі ў цяжкую хвіліну дапамагчы адзін аднаму. Проста не верылася, што гэты чалавек — ягоны зямляк і колішні нават сябра — зрабіўся такім цынікам.

— Дзіўны ты, Блішчынскі! — падумаўшы, сказаў Цімошкін. — Чаму ж ты, калі выступаеш на сходзе, зусім не тое гаворыш. Тады ты — як усе. А цяпер вунь якія думкі ў цябе.

Блішчынскі ад прыкрасці аж пляснуў па шынялі далонню.

— Святая наіўнасць! На сходзе я прапаведваў тое, што павінен кожны ў маім становішчы. Разумееш? Але ж тут зусім іншая справа, разумееш? Тут, брат, арыфметыка: або гінуць чацвярым, або аднаму. Што выгадней для начальства і для нас?

— Подласць тут, а не арыфметыка, вось!

— Ты проста дурань, — абвясціў Блішчынскі. — Наіўны, як затычка! Быў такі і такі застаўся. Жыццё цябе, разумееш, ні на кропачку не навучыла.

— Ты ўжо мудры! Навучыўся за чужыя спіны хавацца!

— Дзе я хаваўся за чужыя спіны? Разумееш, дзе? Ты што, думаеш, у штабе хаханькі? Там што, людзі не гінуць? Кожнаму сваё, браце. Вось маёр Андрэеў загінуў. А я яго ратаваў, цягнуў. Але ж мёртвага я не павалаку. Пры ўсёй маёй павазе да маёра. Разумееш?

Цімошкін змаўчаў. Блішчынскі пату-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Запрашэнне на вёску

Беларускія харавыя калектывы ўсё больш вядомы людзям. На Гайнаўскай зямлі славу здабывае калектыў песні і танца „Белавежа“. Ён выступаў у Гайнаўцы і вельмі спадабаўся. Адно нядобра, што аматары з Белавежы не былі ані разу ў гайнаўскіх вёсках. Але не позна яшчэ. Чакаюць вас жыхары Арэшкава, Корніна, Махнатага, Мора, Новаберазова, Навасад і Дубін.

**Раса**

## Зачаста закрыты

Зачаста бываюць закрыты некаторыя крамы ў Гайнаўцы. Што горш, не напішуць нават, па якой прычыне. Так бывае ў краме на вуліцы Бучка, што побач з абутковай крамай стаіць. У папернай краме больш чым год няма клеючай ленты.

**Імгла**

## Прыемная сустрэча

У клубе „Міленіум“ — раён Тысячагоддзя ў Беластоку — адбыўся цікавы вечар, прысвечаны падрыхтоўцы да VII З'езду ПАРП. Даклад чытаў лектар Гарадскога камітэта ПАРП, а потым адбылася дыскусія. Людзей прыйшло многа, актыўна ўключыліся яны ў размову, якая працягнулася вельмі доўга. (вп)

## У зубаўскім клубе

Зубаўскі клуб у кастрычніку наведаў пісьменнік Сакрат Яновіч. На сустрэчу прыйшлі не толькі маладыя, але і старэйшыя жыхары вёскі. Была сардэчная атмасфера. Пачулі мы многа цікавага.

**Джэны А.**

### ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ВОСЕНЬ

*Быццам у вырай жураўлі,*
*Ключом ляцяць бясследна годы...*
*Пачуй жа крык маёй душы,*
*Прастор радзімы, край мой родны!*

*Зірні у сэрца глыбіню,*
*Абмый яго ад едкай болі,*
*Вярні былую мне вясну,*
*Як той бярозцы, што у полі!*

**Надзя Дудзік**
Гарадок

паў яшчэ ля куста, а пасля неахвотна зняў аўтамат і сеў зводдаль. Можа, з якіх-небудзь пазіцый жалезнай логікі ён і меў рацыю. Толькі Цімошкіну недаступна было разуменне такой логікі. Здабудзька не быў яго сябрам, ён наогул мала што значыў у іхнім узводзе, але хлопец таксама не кінуў бы яго гінуць пад носам у немцаў. Тут была нейкая можа і мяккацелая, але затое чалавечая логіка, нават калі ўрэшце загінуў бы і той, хто ратаваў Здабудзьку, і арыфметыка такім чынам аказалася не ў карысць хлопцаў.

Так яны ляжалі ў цемры, запарушаныя снегам, акалелыя, з трывогай і напружаным чаканнем у сэрцах. Блішчынскі адкінуўся набок і чакаў так, — змалку знаёмы Цімошкіну чалавек на гэтай чужой, далёкай зямлі. Але дзіўная рэч — хлопец не мог цяпер знайсці ў сабе ні кропелькі пачуцця да яго: ні таварыскасці, ні варожасці. Яго як бы і не было побач. Ад яго Цімошкіну нічога не трэба было. Калі б што здарылася, ён не чакаў бы ад яго дапамогі, калі б загінуў Блішчынскі — ён не ведаў, як паставіўся б сам да таго. Невядома, што адчуваў Блішчынскі ў адносінах да яго, — пэўна, тое ж самае, але знешне яны былі пакуль стрымана спакойныя. Усё ж іх прыдушыла адною бядой, і з-пад яе яны выбіраліся разам.

**(Працяг будзе).**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

#### ЯК З ПЧОЛАМІ БЫВАЕ

У нумары 40 ад 5 кастрычніка мы змясцілі інфармацыю пра вытручаную хімічнымі сродкамі аховы раслін пасеку гаспадара з Гаркавіч. Гэта не першы ўжо сігнал такога роду ў „Ніве“. Новае ў сельскай гаспадарцы, няўмела прымяненае, прыносіць часта затраты. Ці значыць гэта, што не трэба, напрыклад, апырскваць расліны? Трэба, ды трэба рабіць усё з галавой. З адказу на нашу крытычную публікацыю выходзіць, што сам гаспадар пасекі не дапільнаваў яе. А праўда якая?

**Адказвае начальнік гміны ў Бабіках Яўген Янушка.**

W odpowiedzi na Wasze pismo dotyczące skargi ob. Hończara Aleksandra z Harkawicz, informuję, że w chwili obecnej brak jest możliwości ustalenia, czy rzeczywiście nastąpiły zatrucia pszczół w wyniku dokonywania oprysku zasiewów przez Kółko Rolnicze w Babikach, jak również ustalenia rozmiarów ewentualnych strat. Ustalono, że Ob. Hończar był powiadomiony o terminie oprysków i obowiązkiem jego było zabezpieczyć pszczoły. W wypadku zatrucia pszczół, zgodnie z obowiązującymi przepisami poszkodowany winien zawiadomić o tym fakcie Rejonową Stację Kwarantanny i Ochrony Roślin, która powołuje specjalną komisję w celu ustalenia przyczyn i rozmiarów szkód. W/w nie zawiadomił o tym ani Stacji Ochrony Roślin ani Urzędu Gminy.

W odniesieniu do usług żniwnych, zgodnie z poleceniem Urzędu Wojewódzkiego, sporządzone zostały harmonogramy usług na okres żniw. Przedtem jednak kółka rolnicze na terenie gminy zostały zobowiązane do zbierania zamówień na usługi w tym zakresie. We wsi Harkawicze ajentem KR jest Ob. Kostecki Jan. Ponieważ Ob. Hończar nie zgłosił zamówienia na sprzęt zbóż, wiec nie został ujęty w harmonogramie usług. Dodatkowo w dniu 28.VI.75 r. przeprowadzono we wsi zebranie wiejskie, na którym zapoznano rolników z ustaloną kolejnością sprzętu zbóż. Ze względu na brak uwag w tym zakresie przyjęty harmonogram pracy uznano za obowiązujący w czasie żniw. Przyjęta przedpłata na usługi może być zwrócona przez Kółko Rolnicze, lub przeznaczona na inne usługi.

#### А ГЭТА ГАСПАДАРСКІ АДКАЗ!

У папярэднім нумары ў гэтым месцы мы давалі прыклад на аснове аднаго адказу з адной гміны, дзе начальнік як быццам і не ведае, што робіцца на яго „гаспадарцы“. Сёння з прыемнасцю публікуем адказ **начальніка гміны Чыжы — Васіля Новіка**, таксама адносна аўтобусных прыпынкаў (абавязкова параўнай, чытач, гэтыя два адказы). А начальніку Новіку дзякуем ад імя людзей за ўвагу да крытыкі.

W związku z notatką prasową pt. „Zasłony przed deszczem” zamieszczoną w „Niwie” Nr 32 dotyczącą budowy przystanku PKS we wsi Czyże, informuję co następuje:

Potrzeba budowy przystanków PKS na terenie naszej gminy niejednokrotnie była analizowana przez tut. Urząd Gminy. Wychodząc ze słusznych wniosków i postulatów, zgłaszanych przez miejscową ludność odnośnie powyższych budów, powołana została komisja z udziałem Woj. Przedsiębiorstwa PKS, Wydziału Gospodarki Komunalnej, Przestrzennej, Ochrony Środowiska i Komunikacji byłego Urzędu Powiatowego w Hajnówce i Urzędu Gminy w Czyżach, która ustaliła między innymi lokalizację budowy przystanków PKS we wsi Klejniki, Leniewo i Czyże.

Z uwagi na to, że najpilniejsza potrzeba budowy istniała we wsi Leniewo (przystanek w polu), zakwalifikowano rozpoczęcie w pierwszej kolejności budowy w tej miejscowości.

Obecnie Wojewódzkie Przedsiębiorstwo PKS dostarczyło typowe elementy na budowę, Urząd Gminy zapewnił wykonawcę i niektóre materiały budowlane, a miejscowa ludność wykonuje w czynie społecznym niektóre prace niefachowe.

W dalszej kolejności, w miarę posiadanych środków finansowych przez Wojewódzkie Przedsiębiorstwo PKS i Urząd Gminy, będą budowane przystanki PKS w Czyżach i Klejnikach.

#### НЕДАКЛАДНАСЦЬ НІЧОГА НЕ ДАЕ

Публікуючы адказ гэты, прыпамінаем карэспандэнтам і чытачам аб неабходнасці вельмі дакладна запісваць і падаваць факты. Адносна ж саміх так званых „ПКС-аў“, просім на будучыню камасаваць факты нерэгулярнасці, недысцыплінаванасці, нясветлівасці шафёраў і тады пісаць, а не толькі на аснове аднаго здарэння.

**Адказвае намеснік дырэктара ПКС у Беластоку Рышард Лідэр:**

Odpowiadając na notatkę prasową pt. „Wy mnie chlebem nie karmicie”, zamieszczoną w „Niwie” nr 40/1023 z dnia 5.X.br. dot. niewłaściwego postępowania kierowcy autobusu nr rejestr. AM 18-87 w dniu 8.IX.br. Oddział Osobowy PKS w Białymstoku informuje, że nie posiadamy w rejestrze taboru autobusowego w/w numeracji. W/w notatka nie podaje godziny, w której miał miejsce opisany w „NIWIE” incydent. Na trasie Klejniki—Białystok jest w rozkładzie jazdy kilkanaście kursów. Wobec powyższego nie jesteśmy w stanie wszcząć postępowania wyjaśniającego i zastosować ewentualnie wnioski w stosunku do winnych.

#### А ТАК РЭАГУЮЦЬ У ДУБІЧАХ

Наша інтэрвенцыя пра дрэнную дарогу з Дубіч Царк. у Палічну была выслана начальніку гміны ў Дубічах Царк. 9 верасня. Дарогу яны наладзілі і тады прыслалі адказ. **Гэта рэагаванне на крытыку! Каб больш такіх!**

Адказвае па даверу начальніка гміны **сакратар бюро Васіль Ляшкевіч:**

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w Tygodniku „Niwa”, podnoszącą sprawę złego stanu drogi Dubicze-Cerkiewne—Policzna, niniejszym informujemy, że nawierzchnia tej drogi została naprawiona w początkach października br. przez Zarząd Dróg Lokalnych w Hajnówce.

## Ужо 18 год!

Чарэмха Баляслаў з Шудзялава ўжо 18 год скупляе бульбу, кантрактаваную для крухмальні на Шлёнску. Калі была пабудавана крухмальня ў Ломжы, ён стаў купляць бульбу для гэтай крухмальні. Ніколі не было скарг на яго, што кепска прымае ці кепска важыць. Потым Баляслаў Чарэмха перайшоў працаваць у ГС Крынкі — філіял у Шудзялаве. Стаў тут магазінерам, а ў сезоне ў далейшым скупляе бульбу ў ГС. Работа ў яго ідзе вельмі спраўна, без затрымкі і без нерваў. У гэтым годзе план скупкі бульбы Б. Чарэмха выканаў у 300 працэнтах.

**Т.К.**

## У адрас ГС у Міхалове

Доўга будуць помніць сяляне навакольных вёсак аб выгадзе, якой была крама з жалезнымі таварамі ў Бандарах. У ёй можна было купіць усё, што неабходна селяніну ў яго штодзённай цяжкай працы. Аб гэтым, бадай, не падумалі прадстаўнікі ГС у Міхалове, ліквідуючы краму. Не памаглі просьбы людзей, якія даказвалі ГС-у, што нельга так. А ўсё ж закрылі. Але людзі вераць, што прэзас ГС у Міхалове зменіць няправільную пастанову, і краму ў Бандарах зноў адкрыюць.

**Крыніца**

## Між школамі і гмінай у Нараўцы

Начальнік гміны ў Нараўцы Язэп Навіцкі многа энергіі ўкладае, каб як мага хутчэй давесці да парадку ў гміннай школе ўсё тое, што было не зроблена, а што неабходна зрабіць.

— Супрацоўніцтва з гмінай, — гавораць настаўнікі, — у нас вельмі добрае.

Нядаўна пры дапамозе Беластоцкай кураторыі былі куплены дзве прычэпы, па 165 тыс. зл. кожная. Кожная мае па 35 месц. Такімі прыгожымі прычэпамі возяць школьную моладзь у нараўкаўскую школу.

Дырэктарам гміннай школы з'яўляецца вядомы актывіст БГКТ Яўген Валкавыцкі, а намеснікам Юрка Зубрыцкі. Наша БГКТ-оўскае супрацоўніцтва з імі таксама вельмі добрае. (вб)

## Будзе лепш

Гастраномія кляшчэлеўскага ГС-у сёлета перайшла на ўласны разлік. Таму ў сталовых Кляшчэль і Чаромхі заўсёды ёсць свежае мяса. Як паінфармаваў прэзас Савіцкі, кляшчэлеўскі ГС гадуе ў сярэднім каля 70 вепрукоў на ўласныя патрэбы. Уласная прадукцыя мяса павінна забяспечыць патрэбы ГС-у. Няма тут ніякіх дзяржаўных нормаў. Толькі зімою прызначаюцца невялікія нормы мяса на талоны для чыгуначнікаў у Чаромсе.

І трэба сказаць, што змянілася ў чаромхаўскім буфеце і рэстаране. Амаль кожны дзень можна тут купіць мясную катлету, тушаную каўбасу, галубцы, фаршыраваную грудзінку. Кляшчэлеўскія гандлёўцы намагаюцца забяспечыць спажывецкі кіёск пры чыгуначных прадпрыемствах свежымі вырабамі, якія рыхтуе рэстаран „Прыгранічная“. Клопат толькі маюць з транспартам.

Як бачым, многа змянілася. Ці не вынік гэта працы новых улад — кіраўніка філіяла ГС у Чаромсе Віталія Новіка і кіраўніка „Прыгранічнай“ Зіны Буйноўскай?

**Мацейка**




**У справе гміннай бібліятэкі ў Орлі,** (што закрыта ўжо доўгі час і вісіць картка з надпісам „рамонт“, але рамонт ніякі не праводзіцца). Усё было б добра, каб вы, дарагі аўтар, хоць, да нашага асабістага ведама падпісаліся, хто вы. Столькі разоў мы інфармуем, што калі аўтар лісту хоча застацца невядомым шырокаму кругу чытачоў, то мае на гэта права, але рэдакцыя не хоча і не будзе весці размоў з ананімамі. Мы павінны ведаць нашых аўтараў, каб, калі будзе такая патрэба, бараніць іх, бо гэта наш абавязак.

**А. М.** Падобная, як вышэй, справа. І такі ж самы адказ. Старайцеся таксама пісаць на тэмы актуальнага жыцця.

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ“!

## У Крывяцічах

Усё менш работы стала ў полі. Варта, каб сяляне Крывяціч падумалі аб рамонце сваіх дарог. Напрыклад, на дарозе ў крывяціцкі лес ёсць выбоіны і глыбокія каляіны. Таксама і на іншых. Каб узяліся і сяляне фурманкамі, і сельгасгуртох трактарамі, і спулдзельня прадукцыйная сваімі машынамі, дык раз-два завазілі б жвірам калдобіны. У Крывяцічах ёсць жа дзве жвіроўні. Толькі б ахвота і добрая арганізацыя працы. І не ламаліся б тады машыны на дрэнных дарогах і не мучылася б жывёла і людзі.

**Іван Кірызюк**

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Раніцай 5 лістапада на дарозе Гайнаўка — Бельшчына Юрка К. 19 год, перакуліўся на сваім матацыкле „ВСК“ і параніўся. Надта хутка ехаў.

У той жа дзень падвечар у Беластоку на вул. Звыцэнства Андрэй О. на таксі наехаў на 62-гадовую жанчыну, якая пераходзіла вуліцу. Жанчыну, цяжка параненую, завезлі яшчэ ў бальніцу, дзе яна і памерла. Міліцыя затрымала вінаватага.

І таксама 5 лістапада (колькі ж бяды людской у адзін дзень!) у 9 гадзін на дарозе Фальваркі Малыя — Дабрынёўка, Заблудаўскай гміны, ехаў „Жукам“ Казімір М. з Заблудава. Ехаў неасцярожна, а была імгла і ён з'ехаў у роў і ўдарыўся ў дрэва. Пяць асоб, што ехалі самаходам, паранены, а адну нават трэба было завезці ў бальніцу. Сам шафёр, бачачы ўсё гэта, уцёк. Рамонт самахода будзе каштаваць 50 тыс. зл.

„Niwa” — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

